Беларусь-- гэта сьвятое!



# ЗАКЛІК

№ 1 (21)
КРАСАВІК
2007 года.

Грамадзскі інфармацыйна-аналітычны веснік г.Касцюковічы

Роздум рэдактара

## Без вайны і пажараў

Мінае ўжо дваццаць першы год, пройдзе яшчэ некалькі разоў па столькі, а вынік таго, што здарылася ў красавіку 1986 года на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, будзе адчувацца вечна. Дэградацыя грамадскага строю ў самым страшэнным выглядзе выявілася тады ў катастрофе.

Тое, што здарылася на ЧАЭС, увайшло ў лік самых жудасных трагедый, якія калі-небудзь выпадалі на долю беларускага народа. Нават чалавеку з моцнымі нервамі немагчыма без унутранай дрыготкі глядзець на пакінутыя вёскі, пасёлкі. Пакінуты людзьмі самыя багатыя на прыроду мясціны, самыя ўрадлівыя землі, што размясціліся на берагах прыгажуні-Бесядзі ў нашым раёне. Афіцыйна сцвяржалася, што яе воды самыя чыстыя на тэрыторыі Беларусі. Колькі яшчэ знікне вёсак і вёсачак на берагах калісьці суднаходнай ракі, на гэта пытаньне адкажа толькі час. Бо мы пакуль вельмі мала ведаем аб канчатковых выніках катастрофы ў Чарнобылі.

Нехта справядліва заўважыў: няма нічога жахлівей, як бачыць, што памірае вёска. Ні галашэнняў, ні жалобных мітынгаў... Проста не стае людзей, зарастаюць вуліцы і двары быльнягом. Паступова знікае з геаграфічных карт назва. А тут знікненне ідзе шпарка, без вайны, без пажараў.

Фашысты спалілі хату – зноў пабудавалі. Пажар пасля вайны ўжо здарыўся – зноў адбудаваліся. Злодзей украдзе – перажывалі, нажывалі. А вось Чарнобыль спаліў і лугі, і крыніцы, і паляны, і здароўе і сэрцы людзей. Гэта не адновім за стагоддзі. Радзіма ў чалавека адна.

Па гэтай прычыне, пакінулі свае аселыя месцы не ўсе, то тут, то там можна сустрэць састарэлых, якія не пажадалі пакідаць сваю небагатую гаспадарку, дом. Колькі таго жыцця засталося?.. Яны добра разумеюць якой небяспецы падвяргаецца іх і без таго хілае здароўе, але нічога з сабой не могуць зрабіць. І кожную вясну, як і многія стагоддзі таму назад, яны аруць, збіраюць ураджай, яны дояць кароў, якія пасьвіліся на мёртвых выганах.

Яшчэ адно балючае ўражанне. Няма такой вёскі, дзе б не "пагаспадарылі" марадзёры. Пасля іх візітаў застаюцца без вокнаў, дзвярэй, падлогі і столі хаты, нават замкі забіраюць. Сумна глядзець на спешна пабудаваныя ў першыя гады пасля чарнобыльскай аварыі школы, катэджы. У іх узламана ўсё, што можна было ўзламаць, пакінуты хіба толькі сцены. Знята ўсё і камусьці за тое, што сёння называецца грашамі, прадаюць рамы вокнаў, батарэі ацяплення з бясплатнай радыяактыўнай нагрузкай. Бывала самі гаспадары перавозілі не толькі хатнюю маёмасць, а і прыбудовы, лазні. Не яны забяруць, дык хапугі, якім усё роўна колькі там кюры на квадратны кіламетр.

. . . Дажываюць свой век сівагаловыя дзеці першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, кіраўнікі якой у свой час усхвалялі і укаранялі "мірны" атам. Хто ж і калі ўрэшце панясе адказнасць за іх лёс? Відаць, ніхто.



# АКТУАЛЬНА СЁННЯ

## СІМВОЛІКА

У канцы мінулага года ў Маскве было ўсё гатова, каб зрабіць рашучы паварот у захопе Украіны. Пуцін ужо адкрыта ездзіў ва Украіну, як да сябе дахаты, адкрыта падтрымліваў расійскага стаўленіка Януковіча. Але здарылася для Масквы непрадбачанае – рэвалюцыя. Расійскі імперыялізм абламаў зубы аб украінскі народ.

Цяперака гэбоўская агентура ў Беларусі і розныя " масці" пад выглядам " апазіцы і" ды розных " аналітыкаў" задаюць ёрніцкае, быццам бы пустое, але правакацыйнае пытанне: якога колеру будзе беларуская рэвалюцыя? Аранжавага ці якога?

Адзін антыбеларускі дзеяч сказаў, што ў Беларусі не будзе рэвалюцыі: ні аранжавай, ні ружовай, ні зялёнай, ні бананавай, сцвярджаючы, што яе не будзе ўвогуле.

Рэвалюцыя, аднак, станецца. Яна непазбежная. Але яна не будзе ні аранжавай, ні ліловай, ні фіялетавай, ні сіне—зялёнай—серабрыстай, ні чорнай, ні жоўтай. Бо ў краіне, дзе забароненыя нацыянальныя сімвалы, нацыянальная рэвалюцыя можа быць толькі пад нацыянальнымі сімваламі – і ні пад якімі іншымі.

Нацыянальная рэвалюцыя ў Беларусі можа стацца толькі Бел-Чырвона-Белай. Усё астатняе, усе іншыя расфарбоўкі не будуць і не могуць быць рэвалюцыяй у Беларусі, а якраз наадварот – гэбоўскай антыбеларускай "контрай", закамуфляванай пад нейкі фарбштюк.

Сітуацыя ў кучмаўскай Украіне істотна рознілася ад цяперашняга становішча ў Беларусі. Ва Украіне не было антыукраінскага акупацыйнага рэжыму, там не была знішчана ўкраінская школа, мова і культура і не былі забароненыя нацыянальныя сімвалы. Наадварот, украінскі сцяг і герб былі афіцыйнымі дзяржаўнымі сімваламі Украіны.

Паколькі не было чужароднай акупацыі і не існавала праблемы і пагрозы украінскім сімвалам, пытанне аб уладзе магло вырашацца пад любым умоўным распазнавальным колерам. Украінскі сцяг афіцыйна існаваў, і ягоныя колеры аб'ядноўвалі ўсіх.

Калі б украінскі сцяг быў забаронены рэжымам (як у Беларусі), то рэвалюцыя ва Украіне была б толькі жоўта-блакітнай. У гэтым адлюстраваліся б сэнс, прынцып і прырода палітычнага змагання. Іншага ў нацыянальнай рэвалюцыі быць не магло.

Прывяду прыклад, як пасля забароны рэжымам беларускага сцяга і герба "Пагоня" агентура спрабавала зрабіць іх падмену ў шэрагах беларускага Адраджэньня.

У 1997 – 1998 гг., якраз калі чужыя сілы рыхтавалі атаку на Беларускі Народны Фронт, у ягоным асяроддзі раптам пачалі прапаноўваць ва ўжытак новыя сімвалы (нібыта дзеля распазнання "дэмакратыі"). Замест "Пагоні" падсунулі бусла (маўляў, няхай жыве беларуская птушка "бацян"). Графіка ўзлятаючага "бусла" дакладна нагадвала малдаўскі лікёра-водачны і вінны фірмовы знак. Пры памылковай падтрымцы Л.Баршчэўскага, які тады быў маім намеснікам і выконваючым абавязкі старшыні Фронту ў Беларусі, "бусел" раптам стаў шырока тыражавацца замест "Пагоні". Ён з'явіўся на дэманстрацыях, на плакатах, на расцяжках, на значках і г. д. Фронтаўцы, аднак, хутка зразумелі сэнс гэтай афёры і спынілі агентурную "самадзейнасць".

Аднак зноў жа, калі б "Пагоня" заставалася дзяржаўным гербам, то нічога шкоднага ў ініцыятыве з "буслом" не было б. Але ў тым і справа, што такая ініцыятыва ўзнікла, як нібыта "бязвінны" (на першы погляд) працяг вынішчэння беларускіх нацыянальных сімвалаў, выцяснення іх з грамадскай свядомасці.

Калі цяпер пры нейкай новай грамадскай сітуацыі ці нават пры звычайным "малпаванні" (бяздумным перайманні чужога) мы ўбачым якія-небудзь іншыя, ненацыянальныя колеры, ведайма: тут адыход ад Беларусі (свядомы ці несвядомы), ад разумення таго, што сталася з краінай, ад святога, ад таго, за што змагаліся лепшыя людзі Айчыны. Па колерах пазнаем іх.

Зянон Пазьняк «Народная Воля» 2005 г. № 54.

* * *

Гістарычная роля сацыялістычнай буржуазіі ў тым, каб падтрымліваць незадаволенасць рабочых.

* * *

Веданне законаў не апраўдвае суддзяў!

*Памфлет*

# Гыля, гусі, на ставок

Былы першы сакратар, былога райкама партыі пакутліва даседжваў апошнія хвіліны працоўнага дня. У галаве мроіліся розныя думкі ( нібы камары таўклі мак ). Раён за яго даволі працяглы час кіравання так нічым і не вызначыўся на абласным фоне паказчыкаў. Ні надояў табе, ні прываг, ні ўраджаяў. А зрабіць нешта трэба, для людзей, уласна кажучы, для народа, каб помнілі што быў кіраўнік ініцыятыўны, хвацкі, сябе ні ў чым не шкадаваў.

А што калі мне стаць ініцыятарам будаўніцтва, скажам, стаўка, сажалкі, а яшчэ лепш возера? Няхай сабе гаражане загараюць каля вадзяных хваляў, купаюцца, вудзяць рыбу; умацоўваюць уласнае здароўе. Пры гэтай думцы скрыпнулі дзверы і ў кабінет зайшоў баявы намеснік, былы другі сакратар. Не дaслухаўшы да канца думку першага, ён пачаў яе развіваць.

– Ва Украіне, Пятровіч, вунь стаўкоў колькі. Нават песня ёсць “Гыля, гусі, на ставок..” Ці пра Мыколу расказваюць, няхай сабе і анекдотам аддае, а карысць ёсць.

– Якая такая карысць? – невядома для чаго ўзняўшы ўверх указальны палец, спытаў Пятровіч.

– Звычайная. Пытаюцца ў Мыколы: “Дзе ты мыешся?” “У сажалцы” –адказвае. “А зімой, сажалка ж замярзае?” – зноў да яго пытанне. “А скількі той зімы” – парыруе Мыкола.

Штучнае возера ўтварылі ў Бараўцы. Мясцовыя меліяратары насыпалі дамбу, шлюз зманціравалі для скіду лішкаў вады. Толькі лішкаў тых не аказалася. Вясной талая ад снегу вада яшчэ сабралася. І не больш таго. У дадатак яна разбаўлялася сцёкамі брудных раўчукоў ад мыйкі машын з райаграпрамтэхнікі, ад складаў райсельгасхіміі, дажджавымі сцёкамі з дарог і палёў.

Тады было прынята рашэнне запампаваць магутнымі электрарухавікамі ваду з побач працякаючай ракі Жадунькі. Зноў не атрымалася, дарагаватае задавальненне, ды і плямы ад машыннага масла па-ранейшаму адсвечвалі сонечныя промні. Смецце featuring рознае накаплівалася. Лягушатнік, дый годзе!

Апошняя каманда, якую выдаў першы, была наступнай: “Возера спусціць! Рыбу вылавіць і здаць у аб’яднанне грамадскага харчавання!”.

Палову загада падначаленым было выканаць даволі проста. Вады той курыцы па калена. А вось як рыбу здаць, старшыні былога выканкама гарсавета трэба было паламаць галаву. Спаслацца, што вылавілі рыбакі, ці піран’і з’елі запушчаных малькоў, было рызыкоўна. Выручыў галоўны ўрач санэпідэмстанцыі. Быў складзены акт, які засведчыў: “Рыба непрыгодная для ўжывання ў страву”.

Так ці інакш, але памяць аб ініцыятары воднай ідыліі захавалася. Прычым, на ўзроўні творцы будаўніцтва плавальнага басейна ў мікрараёне горада.

На цяперашні час збіраюцца сродкі для ўзвядзення возера на рацэ Крупня. Уявім сабе, што па ім будуць плаваць з доўгімі шыямі лебедзі-шыпуны, розных відаў рыбы, а з імі – мясцовы Мікола. Ён не толькі любуецца казачнай прыгажосцю, а і мыецца. Дзе ж яму, бедалагу, ад бруду пазбавіцца, калі гарадская лазня працуе ад выпадку да выпадку, а ў кране ні кроплі гарачай вады.

М. Азёрны.

# Чаму на Беларусі маскоўскага цара Івана IV называюць Жахлівы?

Маскоўскі цар Іван IV (1530—1584) увайшоў у беларускую гісторыю як захопнік і кат: распачаўшы вайну супраць Вялікага Княства, у 1563 годзе захапіў Полацак, у якім чыніў жудасныя забойствы, дзесяткі тысяч людзей выводзіў у няволю, рассылаў па Беларусі карныя аддзелы для расправы над простым людам. За 16 гадоў панавання ягоных ваяводаў на Полаччыне край гэты настолькі здзічэў і абязлюдзеў, што на аднаўленне яго давялося браць людзей з іншых мясцінаў Беларусі.

Не менш крыві ліў Іван IV і ў сваёй дзяржаве, дзе гады апрычніны сталі сапраўднай вакханаліяй садызму. Прыкладам, у Ноўгарадзе Вялікім узімку 1570 года апрычнікі больш за месяц забівалі па 500—1000 чалавек штодзённа. Ды вось жа дзіва: у памяць свайго народа каранаваны маньяк увайшоў як жорсткі, але справядлівы суддзя " грозный царь Иван Васильевич". Спрыялі гэтаму асаблівасці расейскага нацыянальнага характару, прынамсі манархісцкія ілюзіі. Адсюль – апалогія тыранства, ідэалізацыя гэтага цара ў расейскай гістарычнай літаратуры.

На Беларусі ж успрыманне Івана IV адпавядала ягоным чорным справам. Тут, як і ў іншых еўрапейскіх краінах , дзе хадзілі жудасныя чуткі пра яго неверагодную лютасць, маскоўскі цар быў не "грозны" а жахлівы. У ангельскую мову ён так і ўвайшоў, як Iohn Terrible, у нямецкую – як Ivan Schrekliche. І ў гісторыі гэта Іван Жахлівы.

*Генадзь Сагановіч*

*Карысна ведаць.*

## Наша мова

Беларуская мова на Касцюкоўшчыне атрымала статус афіцыйнай толькі ў студзені 1925 года. З гэтага года ўсе агульнаадукацыйныя школы, дзяржаўныя і грамадскія ўстановы ажыццяўлялі справаводства толькі на беларускай мове. Былі арганізаваны курсы па беларусазнаўству для настаўніцтва. Выкладчыкамі выкарыстоўвалася навуковая праца "Беларуская граматыка для школ" Б.Н. Тарашкевіча, якой упершыню былі вызначаны правапісныя і граматычныя нормы беларускай мовы. Надрукавана ў 1918 годзе (кірыліцай і лацінкаю). На яе аснове ствараліся падручнікі (прыкладам, у 1921 годзе – "Практычная граматыка беларускай мовы" Я. Лёсіка).

## Лічбы для роздуму

У студзені – чэрвені 1989 года ў вёсцы Сілічы абследавана на спецыяльнай установцы 238 чалавек. Сярэдняя доза ўнутранага апраменьвання (бэр\год) дарослых склала 0,05, падлеткаў – 0,02 і столькі ж у дзяцей.

А вось параўнальныя дадзеныя па радыяактыўнаму забруджванню вёсак цэзіем – 137 ( Кі 1 км кв.) па стане на чэрвень 1989 года. За назвай населенага пункта ідзе лічба забруджанасці па цэзію. Відуйцы – 19,0; Марозаўка – 27,0; Папаратная – 13,3; Правідэнец – 27,6; Сілічы – 16,7; ( У аснову разлікаў пакладзены дадзеныя Дзяржкамгідрамета былога СССР; Белгідраметра, а таксама дадзеныя Дзяржаграпрама і санітарнай службы аховы здароўя).

* * *

У лесе перабаршчылі з дэмакратыяй: штогод лісце мяняецца!

* * *

Народ неабходна ашчасліваць, няхай нават усе пагінуць!

* * *

Птушкі ў клетцы, але ж клетка на волі.

* * *

Хамелеоны ў гэты момант пачырванелі.

♦ ♦ ♦

Афарызмы ад Расткі Закіча

Інфармацыйна-аналітычны веснік г.Касцюковічы
Заклік
Рэдактар М.Малахаў
Наклад 250 ас.